Год II. Кастрычнік 1933 г. №10 (22).

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!




БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



„Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопісь.

Альбэртын. Кастрычнік 1933 г. № 10 (22.)

## *НЯДЗЕЛЯ 20 ПА ПЯЦЬДЗЕСЯТНІЦЫ.*

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ ПАВОДЛЕ СЬВ. ЛУКІ РАЗЬДЗЕЛ 7,11-16, ЗАЧАЛА 30.*

*11. І сталася потым, ён ішоў у места, якое
завецца Наім, і ішлі з ім вучні яго і вялікая грамада.*

*12. Калі-ж прыбліжаўся да брамы места, вось
выносілі нябожчыка, адзінага сына ягонай маткі,
а гэтая была ўдавою; і з ёю вялікая грамада з
места.*

*13. Калі ўбачыў яе Госпад, зьміласэрдзіўшыся
над ёю, сказаў ёй: Ня плач.*

*14 І падышоў, і дакрануўся да мараў, а тыя,
што нясьлі, сталі. І сказаў: Хлопча, табе кажу,
устань*

*15 І сеў, каторы быў памёршы, і пачаў гаварыць. І аддаў яго матцы ягонай.*

*16. І зьняў усіх страх, і славілі Бога, кажучы:
Што прарок вялікі паўстаў паміж нас, і што Бог
адведаў народ свой.*

---

*„Хлопча, табе кажу: устань!“*

*(Лук. 7,14).*

Ісус Хрыстос прайшоў праз сваё жыцьцё на зямлі, робячы людзям дабро. Сэрца Збаўцы было чулае на гора і няшчасьце людзкое.

Прыклад дабраты Вучыцеля з Назарэту расказвае нам сяньняшняе эвангэльле.

З мястэчка Наім выходзіла хаўтурная працэсія, нясьлі нябожчыка на могілкі. Нябожчыкам быў малады хлапец, адзіны сын беднае ўдавы, адзіная падпора яе ў старасьці. Бедная жанчына, праваджаючы свайго ўмілаванага сына на могілкі, плакала няўтуленым плачам. Сустрэў пры браме мястэчка гэтыя сумныя хаўтуры Ісус Хрыстос, пачуў плач беднае ўдавы і зьлітаваўся над ёю. Казаў затрымаць насілкі, падышоў і сказаў нябожчыку: **„Хлопча, табе кажу ўстань“** (Лук. 7,14). Якая-ж радасьць была беднае ўдавы, калі ўгледзіла свайго сына адзінага жывым. Гэты цуд ускрашэньня памёршага зрабіў — кажа сьвятое Пісаньне — вялікае ўражаньне на прысутных: **„І зьняў усіх страх, і славілі Бога.“** (Лук. 7,16).

О, які-ж добры Ісус Хрыстос: вялікі цуд зрабіў, каб пацешыць плакаўшую ўдаву.

І цяпер таксама той самы Госпад Ісус Хрыстос любіць нас і гатоў выявіць нам сваю дабрату ў нашай патрэбе.

Апрача сьмерці цялеснай ёсьць сьмерць духоўная. Душа паміpae, калі чалавек грашыць. Праз грэх хрысьціянін паміpae для жыцьця надпрыроднага, божага. Як труп хутка гніе і выдае з сябе прыкры пах, так сама і грэшнік затручвае жыцьцё ў грамадзянстве праз сваё грэшнае жыцьцё, даючы дрэнны прыклад.

Як важнейшая ёсьць душа за цела. так і сьмерць душы ёсьць горшая за сьмерць цялесную.

Як-жа цяпер у нашыя часы многа ёсьць паміж намі юнакоў, што ўжо даўно памярлі духоўна.

Бедная матка, як тая ўдава, аб каторай гаворыцца ў сяньняшнім Эвангельлі, вельмі сумуе і плача, гледзячы на сьмерць духоўную свайго сына, але нічога ня можа парадзіць, сын яе ня слухае, нават і ня думае ісьці да споведзі, каб ачысьціць сваю душу, каб уваскроснуць да жыцьця божага, жыцьця ласкі.

Ня трэба маткам упадаць у роспач. Той самы Хрыстос, што калісьці літаваўся над людзкім горам і сьлёзамі, цяпер напэўна зьлітуецца, калі будзем яго прасіць. Кожная матка, каторая шчыра любіць свайго сына, павінна рупіцца аб тым, каб яе сын жыў запраўды жыцьцём хрысьціянскім. Ня трэба шкадаваць просьбаў і намоваў, калі блудзіць, каб навярнуўся на добрую дарогу. А калі ўсе сродкі чалавечыя не памагаюць, тады трэба зьвярнуцца да Бога, ад яго шукаць помачы ды ратунку. Напэўна Ісус Хрыстос выслухае

просьбу маткі за свайго сына, ня будзе бязуважны на сьлёзы матчыныя.

Клясычным прыкладам ёсьць гісторыя навярненьня сьв. Аўгустына. Вялікі Сьв. Аўгустын не праз усё сваё жыцьцё быў прыкладам сьвятога жыцьця. У моладасьці вёў жыцьцё разьвязнае, прыстаў да гэрэтыкаў маніхейцаў. Матка яго, сьв. Моніка, вельмі хварэла душою за свайго адзінага сына і шчыра ды часта малілася са сьлёзамі да Госпада Бога, каб яе сын умілаваны пакінуў сваё грэшнае жыцьцё і навярнуўся да Бога. Здавалася, што Госпад Бог быў глухі на яе просьбы, сын не пакідаў свайго грэшнага спосабу жыцьця, аднак сьв. Моніка таксама не пакідала маліцца. І толькі пасьля 18 гадоў яе няўпыннае малітвы Госпад Бог яе выслухаў. Малітва сьвятой маткі за грэшнага сына ня была дарэмнай: яе сын Аўгустын, ня толькі паправіўся, але ўсёй душою навярнуўся да Госпада Бога, стаўся вялікім сьвятым.

Як часта здараецца сьвяшчэньнікам чуць ад матак нараканьні на сваіх сыноў, што ўжо Бога выракаюцца, ня хочуць хадзіць да царквы, даўно ўжо ня былі ў сьвятой споведзі. Вельмі цяжка на душы для такой маткі, што мае бязбожніка сына, ня можа гаварыць аб гэтым бяз сьлёз. Усе намовы нічога не памагаюць. Такі бязбожны сын думае, што маці яго і бацька—выжыўшыя з розуму старыкі, а ён толькі разумны, вучоны, бо сьлібізаваць па кніжцы ўмее. Нажаль такіх сыноў вельмі „разумных," а папраўдзе гаворачы, дурных, як тыя лапці, у якіх ходзяць, у нашыя часы вельмі шмат разьвялося.

Гэткія сыны гэта духоўныя нябожчыкі, на выгляд здаецца жывуць, а ў запраўднасьці даўно перасталі жыць жыцьцём хрысьціянскім, надпрыродным, божым. Як труп гніючы выдае вельмі прыкры пах, так сама і гэткія хадзячыя мерцьвякі толькі навакол сябе даюць згоршаньне, сеюць навокал сябе моральную гніль, духоўнае зло.

Можа некаторым маткам здаецца, што няма ратунку, ніхто і нішто ня здолае скіраваць на добрую дарогу заблудзіўшага сына, ніякая сіла ня можа яго ўваскрасіць з духоўнае мярцьвечыны. О, так, ніякая сіла чалавечая, але ў Бога ўсё магчыма.

Прыклад маем у Эвангельлі на сяньняшні дзень: Ісус Хрыстос зьлітаваўся над плакаўшай маткай, шкадаваўшай свайго памёршага сына, і ўскрасіў ён яе сына, так сама і сяньня гатоў выслухаць малітву маткі за навярненьне сына. Матчыныя сьлёзы ўзрушаць Боскае Сэрца Ісуса, і зробіць Ён цуд духоўнага ўваскрасеньня памёршага сына да жыцьця надпрыроднага.

Хай-жа прыклад сяньняшняга эвангельля будзе сыгналам для кожнага з нас, асабліва для кожнае маткі, — вялікае надзеі на дабрату Госпада Ісуса Хрыста, Каторы заўсёды для кожнага чалавека мае сэрца, поўнае міласьці і дабраты. Дык прыбягайма ў нашых патрэбах да Госпада Ісуса Хрыста і напэўна Ён нас выслухае. Амін.

*а. Антоні.*

---

# Сьвятая Мучаніца Параскева, празваная Пятніца.

(*28 кастрычніка*).

Выбраная намі для звычайнае сьвятажыцейнае зацемкі, Угодніца Божая завецца гэтак у Ірэйскім Малітваслове Маскоўскага Сынодальнага выданьня, а ў Месяцаслове прат. Мальцава (Бэрлін, 1900 г.) яна тытулуецца Велікамучаніцай. Наагул трохі дзіўны афіцыяльны лёс сьв. Параскевы-Пятніцы; яе, напрыклад, няма зусім у грэцкім праваслаўным Часлове, дзе, наадварот, паказана толькі Прападобнамучаніца Параскева (26 ліпня), родам з Рыму, знаёмая таксама і рускім сьвятцам пад тэю самаю ліпнёваю датаю. У поўным календары праваслаўнае Царквы ледзь успамінаецца і сьв. Параскева, паказаная ў лацінскіх сьвятцах (Рымскі Мартыролёг), замучаная ў дружыне, г. зн. таварыстве сьв. Фотыны, — 20 сакавіка. Да нясусьветных сьвятых трэба аднясьці чацьвёртую сьв. Параскеву, якая сьвяткуецца ў Расеі 14 кастрычніка, родам македонку, а дзеля гэтага выклікаўшую спрэчку паміж баўгарамі і сэрбамі аб яе нацыянальнасьці. Я нічога не кажу аб пятай угодніцы, што носіць імя Параскевы, жыцьцё якое і нават само істнаваньне яе мала даказана: гэта князёўна Полацкая, жыўшая, паводле слоў аднаго Літоўскага летапісу, 7 гадоў у Рыме і там памёршая ў 1239 г.

Вось-жа, зводзячы ў адно розныя сьвятцы, мы маглі-б мець пяць сьвятых з імем Параскевы, якія сталіся Угодніцамі Божымі. Але наколькі ні прыемна было-б нам, дзецям Сусьветнае Царквы, бачыць у лоне Сьвятых адну з Полацкіх князёўнаў, мы, праз паказаную вышэй прычыну, прызнаём, разам з Праваслаўнаю Царквою, чатыры ўгодніцы Параскевы, таму што яны прызнаныя і Усходняю галінаю Сусьветнасьці. (Для 14 кастр. глядзі Львоўскі Ірэйскі Малітваслоў. Стаўропігія, 1906 г.).

Хронолёгічна першаю з іх павінна быць пастаўлена сьв. Параскева Рымлянка (27 ліпня). Яна пацярпела пры імпэратары Антаніне, г. зн. у палавіне II стагодзьдзя, тады як сьв. Параскева, якой пасьвячана гэтая зацемка, была замучана не раней, як у канцы III стагодзьдзя, а якраз пры Дыоклітыяне.

Паходзіла яна з малаазійскага гораду Іконіі (цяпер Конія ў Турэччыне) і была дачкою набожных бацькоў, доўга ня меўшых дзяцей. У цярпеньнях яны вымалілі ў Госпада адзіную дачку; вось чаму, калі яна нарадзілася ў пяты дзень тыдня, пасьвячаны памяці Мукаў Хрыстовых, яны пастанавілі назваць яе Параскеваю, як завецца пятніца па-грэцку. Гэтае слова пераводзіцца панашаму „Прыгатаўленьне“, — грэкі называлі гэтак пяты дзень тыдня ў патураньне жыдом, для якіх пятніца была прыгатавальным днём да суботы.

Астаўшыся ў дзіцячых гадох круглаю сіратою, наша сьв. Параскева ўсё такі была падгатоўлена да жыцьця; яе бацькі пасьпелі закласьці ў маладую душу моцную рэлігійную аснову, вось чаму, падросшы, дзяўчына павяла жыцьцё самапасьвячэньня, ужываючы сваё немалое багацьце на падмогу бедняком, а не «на украшеніе и сластопитаніе юности своея», і да таго-ж яна дала абяцаньне беззамужжа. Сьв. Параскева займалася правядзеньнем у жыцьцё ўсіх хрысьціянскіх асноваў, ня быўшы пры гэтым манашкаю, а застаючыся ў сьвеце. Гэткае дзейнае хрысьціянства завецца цяпер „Каталіцкаю Акцыяй“, і сьв. Параскева дзеля гэтага сьмела можа быць выбрана Нябеснаю Патронкаю нашых дзяўчат, калі яны пад кіраваньнем пастыраў арганізуюцца ў Саюзы Хрысьціянскае Жаноцкае Моладзі на ўзор тых, якія пашыраюцца ў лацінскай галіне Сусьветнасьці і ў Галіцыйскіх Усходніх епархіях. Гэткаму Саюзу загадзя забясьпечана багаслаўленьне Сьв. Айца, Папы Каталіцкае Акцыі.

Ня мала займалася сьв. Параскева і простым апостальствам сярод сваіх суграмадзян, у большасьці яшчэ паганцаў. Але гэты род працы і давёў яе да мучаніцтва. Яна была высьледжана прыяцелямі Дыоклітыяна—прасьледавальніка і пасаджана ў цямніцу, дзе і была засечана мечам. Славянскае „житіе“ сьв. Параскевы ня шчодрыцца на кветкі красамоўства, апісваючы яе жыцьцё. Крыху падрабней яно затрымліваецца толькі на яе допыце. Гэтак, спытаная пра яе імя, яна адказала, што завуць яе хрысьціянкаю, і толькі на паўторныя дамаганьні назвала сваё хроснае імя, заўважыўшы, што пяршынство дае першаму слову, бо „хрысьціянка ёсьць імя вечнага жыцьця“. Прасьледаваньне Дыоклітыяна, дзесятае па ліку з усіх пэрыядаў прасьледаваньня

хрысьціян, было найдаўжэйшым, — яно цягнулася 21 год 1284—305), але, разам з тым, і апошнім, таму што хутка кроў мучанікаў была ўзнагароджана трыумфам хрысьціянства (313 г.). Гэткім чынам мы можам глядзець на сьв. Параскеву Іконійскую, як на адну з апошніх „агніц“, заколатых на задаволеньне паміраўшага ў страшэнным кананьні паганства — яна была разам з тым і дзейнаю працаўніцаю нараджаўшайся Нівы Хрыстовай. Вось чаму мы асабліва паважаем сьв. Параскеву-Пятніцу і прызнаём заслугі расейскае, яшчэ адлучанае ад Сусьветнасьці, Царквы, якімі гэтая Царква памагала пашырэньню чэсьці нашае Угодніцы „нават да краю зямлі“ (Д. 1. 8.).

У адным мы павінны папікнуць гэтую Царкву: яна энэргічна не перашкаджала напластаваньню бяскрытычных легэндаў вакол крыштальна простага жыцьця сьв. Параскевы і гэтым зацямніла чыста хрысьціянскае значэньне нашае Сьвятое, як прапаведніцы Хрыстовае навукі сярод паганцаў. У народным уяўленьні сьв. Параскева зьяўляецца нейкаю мітычнаю істотаю, паважаньне якое зьвязана проста з забабоннымі навыкамі. Народ заве яе Параскаю, паменшальна Парашаю, лічачы, што яна прыводзіць парошу, г. зн. першы сьнег. Да сьв. Параскевы зьвяртаюцца асабліва жанчыны, а дзяўчаты, запамінаючы, што яна была дзявіцаю, просяць яе аб прысьпяшэньні іхняга замужу: «Матачка Параскева, пакрый мяне хутчэй.» Яна — патронка ткальніцаў, у той час, як прадухі больш ведаюць пра Параскеву Сэрбскую і завуць яе Лёньніцай, таму што ў яе дзень (14 кастрычніка) пачынаюць трапаць лён, вылежаўшы доўгі час у вадзе; а дзеля таго, што гэта работа даволі неахайная, дык і патронка яе атрымлівае нямілае прозьвішча„**Прасковьи Грязнухи,**“ у той час, як сьв. Параскева Іконійская паважаецца, як любіўшая чысьціню, і жанчыны дзеля гэтага не прадуць пятніцамі, баючыся ўкрыць пылам Матачку Параскеву і зацярушыць цермяцьцю яе вочкі. Наша Сьвятая зьяўляецца як быццам санітарнаю даглядчыцай водаў, і дзеля гэтага яе абраз часта ўпрыгожвае калодзежы і крыніцы; а дзеля таго, што яны найчасьцей робяцца на раздарожжах, дык і самыя пункты гэтыя іншы раз завуцца „пятніцамі,“ судзячы паводле народнага сказу: провады і сустрэчы каля Пятніцы. Сьв. Параскева ратуе і быдла ад падзежы і людзей ад трасцы ды болю зубоў.

Яна вымагае, як здаецца народу, толькі аднаго, каб пяты дзень тыдня, як пасьвячаны памяці мукаў Збаўцы, асабліва паважаўся народам, бо яна-ж „**Прасковья—Пятница— Страстям Христа Причастница.**“ І, ведама-ж, у пятніцу, апрача посту, узмацняецца наагул рэлігійны запал верных; і вось гэты дзень у народным уяўленьні пачынае раў-

няцца з нядзельным днём паводле свайго значэньня. Магчыма, што гэткае значэньне пятніцы ня зусім вольнае ад магамэтанскага ўплыву, бо вядома, што яна — „татарская нядзеля.“ Шмат якія жанчыны ў пятнічны дзень устрымліваюцца ад цяжкіх работаў, не саджаюць курэй на яйкі, таму што пятнічныя кураняты няжывучыя. А за жанчынамі і мужчыны ўхіляюцца працаваць пятніцамі, часта яны нават не аруць, трымаючыся прыказкі: „**Дѣло въ пятницу всегда пятится,**“ г. зн. не ўдаецца. Да пятніцы іншы раз рыхтуюцца, як да нядзелі: гаспадыні чысьцяць свае хаты ў чацьвер.

Дзіўным зьяўляецца назначэньне сьв. Параскевы, як патронкі гандлю. У старой Расеі вядомыя гэтак званыя пятнічныя таргі. Тут мы маем, здаецца, перажытак жыдоўскага ўплыву, — купцы-жыды ў суботу не таргавалі (шабасавалі), і, гэткім чынам, пятніца была днём, калі народ мог рабіць свае закупы на нядзелю.

Мы бачым, што да паважаньня сьв. Параскевы-Пятніцы прычынаў у расейскага народу было даволі, а дзеля гэтага ў яго стварыўся сказ аб няцьвёрдым чалавеку, як аб тым, што мае сем пятніцаў у тыдні: «у яго пятніцы мяняюцца», хоць і тут не абыйшлося без царкоўнага ўплыву, — вядома, што на Чырвоным Пляцы ў Маскве некалі істнавала 7 **обѣтныхъ** цэркаўкаў на чэсьць сьв. Параскевы.

Гэткім чынам у праваслаўнага расейскага люду было рэлігійнае перакананьне, што пятнічныя малітвы асабліва прымаюцца, падобна да таго, як гэта ад'значаецца ў лацінскай галіне Сусьветнасьці, дзе, паміж іншым, паважаецца першая пятніца кожнага месяца; у Велікаросіі было вядомым паважаньне 12-цёх пятніцаў году, прыпадаўшых, галоўным чынам, на пярэдадне вялікіх сьвятаў; асабліва паважалася дванаццатая, за якую, як верыў народ, „імя чалавека напісана будзе ў самога Госпада ў кнігах жыцьця.“

Справядлівасьць кажа дадаць, што і Расейская Царква рабіла пробы абмежаваць народнае ўяўленьне, зайшоўшае вельмі далёка ў паважаньні сьв. Параскевы. Стогаловы Сабор (1551 г.) не дарма называў падобныя бяскрытычныя вераваньні „**богомерзкими прельщеніями бѣсовскими.**“ Але і тут, як і ў шмат чым іншым, справа ня ішла далей за добрыя пажаданьні, і народ да апошніх дзён не атрымліваў патрэбнае асьветы, ствараючы сабе дзеля задаволеньня рэлігійнага голаду розныя сурогаты. Але прыдзе час, калі апамятаецца і ён. Да сьв. Параскевы ён захаваў гістарычна ўгрунтованае паважаньне, як да стойкае мучаніцы за праўду Хрыстову, — яе мукі — гэта „пасаг прачэсны несьмяротнаму жаніху Хрысту,“ падарыўшаму ёй крыж, як „зброю міру.“ У самога расейскага народу была сьвядо-

масьць, што ён „перасольвае“ ў паважаньні сьв. Параскевы, дзеля гэтага ён часам казаў: **„Егорія замѣсто Пятницы промѣнялъ“** аб тых людзях, якія захапляліся вынятковым паважаньнем таго ці іншага Угодніка Божага, забываючы, што ўсе яны сведчаць у Госпада аб кожнай праяве нашае добрае волі.

*Монтальто.*

---

## *ВАСЕНЬНІЯ ДУМЫ.*

*Ужо й верас адцьвіў,*
*Ліст на дрэве пажоўк,*
*Ужо дзень цяпер шмат карацейшы;*
*Сумна бор ўжо заныў,*
*Жураўлёў крык замоўк*
*І ўжо час неяк стаў халаднейшы*
*Восень думы нясе,*
*Хоць ня хочу я іх —*
*Яны душу маю надрываюць.*
*Эх, каб гэта ў бядзе*
*Мне ня бачыць сваіх,*
*Тых, што лепшае долі чакаюць.*
*Дык-жа, Божа! пачуй*
*Мае мольбы к Табе,*
*Пашлі ім хоць праменьчык надзеі,*
*У бядзе сілы дафуй,*
*Каб змагчы ім яе,*
*А ня жыць ў гэтай страшнай завеі.*

*ЯНКА НЕВУК.*



# IV Унійная Конфэрэнцыя Духавенства ў Пінску.

У Пінску 7, 8 і 9 верасьня с. г. адбылася Чацьвёртая Унійная Конфэрэнцыя. Зьехалася шмат выдатных унійных дзеячоў, было 6 япіскапаў і больш як сотня сьвяшчэньнікаў, з іх каля 40 усходня-славянскага абраду. Былі прачытаны вельмі цікавыя рэфэраты тэорэтычнага і практычнага характару, асабліва учасьнікам Конфэрэнцыі падабаўся рэфэрат а. Д-ра І. Слipoга, Рэктара Гр.-Кат. Багаслоўскае Акадэміі ў Львове: „Візантынізм як форма культуры, які Конфэрэнцыя пастанавіла выдрукаваць. Рэзалюцыі Конфэрэнцыі:

1) Каб у унійнай працы зьвярнуць асаблівую ўвагу на практыку Споведзі, як сродка для ўзмацаваньня унійнае працы,

2) каб пры Унійнай працы знаёміліся з духам візантыйскае культуры,

3) каб учасьнікі Конфэрэнцыі рупіліся здабыць сярод духавенства новых працаўнікоў для уніі,

4) каб чарговая конфэрэнцыя зьвярнула больш увагі на пытаньні практычнага кіраўніцтва душамі,

5) каб на чарговай конфэрэнцыі заняліся рознымі абрадамі адносна да сутнасьці царквы і

6) каб на чарговай конфэрэнцыі была зьвернена ўвага на вартасьці і асаблівыя прыметы візантыйскага абраду.

Конфэрэнцыя была закончана Саборнай сьвятой Літургіяй, якую адправіў Я. Пр. Япіскап Мікалай Чарнэцкі пры учасьці сьвяшчэньнікаў і дыяканаў. У канцы прамовіў гаспадар дому і галоўны кіраўнік Конфэрэнцыі Я. Пр. Япіскап Пінскі Букраба, дзякуючы учасьнікам за прыбыцьцё на конфэрэнцыю.

*Злучэнец.*





*Учасьнікі IV Унійнай Конфэрэнцыі Духавенства ў Пінску.*

# Міжырэч.

Над ракою Зэльвянкай, у 12 кілёмэтрах ад Зэльвы, Ваўкавыскага пав. ляжыць невялічкае мястэчка Міжырэч. Ёсьць там вельмі прыгожы касьцёл і царква, калісьці уніяцкая.

У самым мястэчку мала нязлучаных праваслаўных, але ў ваколічных вёсках іх шмат, бацькі каторых таму гадоў сто былі ўсе уніятамі.

Міжырэч падтрымлівала ў сваім часе селявічан, да каталіцкіх сьвяшчэньнікаў уніяты з Сялявіч вазілі сваіх дзяцей хрысьціць і зьвярталіся з іншымі трэбамі, праз гэта ў 1891 г. каталіцкая парафія ў Міжырэчы была скасавана.

Каталіцкі сьвяшчэньнік Уладыслаў Бэрнацкі усёй душою жадае, каб нязлучаныя браты праваслаўныя вярнуліся да веры сваіх дзядоў, прынялі сьвятую Унію. Даўно ўжо мяне прасіў, каб прыехаў да Міжырэча і адправіў Сьв. Літургію.

Уступаючы просьбе паехаў я 9 верасьня с. г. з дзяком праз Зэльву да Міжырэча. У Зэльве сустрэў нейкага ксяндза, падумаў, што гэта будзе пробашч з Зэльвы. Прывітаўся, завёў гутарку, аказалася, што гэта быў ксёндз з нацыянальнага касьцёла з Коннай каля Зэльвы. З некалькіх слоў даведаўся, што ён мае намер са сваімі прыхаджанамі прыняць Сьвятую Унію. Ня ведаю, але мне здаецца, што ня будзе труднасьці прыняць прыхаджан, але яго, як сьвяшчэньніка, ня можна будзе прыняць. Сьвяшчэньнікаў праваслаўных Апостальскі Пасад, хаця ня кожнага, але пазваляе япіскапам прыняць, годуроўцаў аднак-жа ня прымае.

У Міжырэчанскім касьцёле адслужыў я Сьвятую Літургію паводле славянскага абраду, пасьля лацінскай Сьв. Літургіі. Усе лаціньнікі засталіся на нашай Літургіі. Труднасьць была, ў якой мове трэба сказаць навуку, каб усіх задаволіць: апрача каталікоў шмат прышло і нязлучаных праваслаўных, якія прывыклі ў царкве слухаць навукі парасейску. Каб усіх задаволіць сказаў навуку ў трох мовах: папольску, парасейску і пабеларуску, разьбіваючы прамову на тры часьці. Усе былі здаволены, асабліва вельмі ўважна слухалі, калі пачаў гаварыць пабеларуску. У гэтай мове першы раз пачулі праваслаўныя і каталікі навуку. Для Госпада Бога ўсё роўна, ў якой хто мове Яго выхваляе, каб толькі ад шчырага сэрца.

Па палудні даў шлюб аднаму уніяту, людзей цікавых было многа, большасьць праваслаўных. Для іх вельмі было цікава паўзіраццa, як уніяцкі сьвяшчэньнік вянчае, бо ніколі яшчэ ня бачылі. Пасьля кожны з праваслаўных казаў: „Зусім так, як у нас, няма ніякай розьніцы.“

Кароткую прамову да маладых сказаў пабеларуску.

Прамовы і служба паводле ўсходня-славянскага абраду зрабілі вялікае ўражаньне. Я выпаўніў свой абавязак; нашым абавязкам ёсьць сеяць словы праўды і неабходнасьць для ўсіх хрысьціян злучэньня, а ўрост можна спадзявацца дасьць Госпад Бог.

*а. Антоні.*

---

# Хроніка.

**1. Альбэртын.** Лік айцоў Альбэртынскага Манастыра павялічыўся на адну маладую ды вельмі выдатную сілу — а. Пётру Бужака, які толькі што скончыў багаслоўскія навукі ў Боболянум у Любліне.

**2. Ясная Гара. (КАП.23.IX.1933.). Конфэрэнцыя Япіскапату ў Чанстахове.** На чанстахоўскай Яснай Гарэ 19—20 верасьня с. г. адбылася конфэрэнцыя Япіскапаў лацінскага і грэцкага абрадаў. Зьместам разважаньняў былі духовыя патрэбы бягучага мамэнту і што раз дык лепшае прытарнаваньне да іх духавенства. Гэтае прытарнаваньне абнімае паглыбляньне тэолёгічнае навукі і ўзьнясеньне духавенства на найвышэйшыя ступені духовага аскетызму. Радам актуальных рэфэратаў абгаворана роля і дырэктывы для духавенства, каторыя маюць палегчыць яму яго дзейнічаньне ў трудных варунках, у якіх яно працуе ці то ў душпастырстве, ці ў школьніцтве або ў грамадзка-прасьветнай акцыі. У сваёй працы духавенства сустрачае перашкоды з розных бакоў, звычайна ад дзейнікаў, якія не разумеюць значэньня позытыўнай падмогі духавенства для патрэбаў ня толькі рэлігійных, але таксама асьветных і дзяржаўных.

У радзе адміністрацыйных пытаньняў узгоднены спосабы паступаньня, а ласьне ў рэчах, якія датычаць публічнае моральнасьці, загрожанай ці то адзінкамі, ці аб'яднаньнямі, якія пашыраюць дэморалізацыю.

Пасьля разгляду справаў, абнятых праграмаю зьезду, Япіскапат зьвярнуў таксама сваю ўвагу і на расьпісаную нацыянальную пазыку. Прызнаючы важнасьць гэтае пазыкі для гаспадарчых патрэбаў краю, Япіскапат заняў прыхільнае да яе становішча і А. А. Ордынатары зьвернуцца да духавенства з належнымі паясьненьнямі.

**3. Луцк (КАП. 9.IX.1933). Чуткі аб зьменах у праваслаўнай царкве.** „Новий Час“ за 7.IX. с. г. паведамляе, што ў недалёкім часе маюць адбыцца пэрсональныя зьмены ў вышэйшай іерархіі праваслаўнае Царквы ў Польшчы. Мітрапаліт Дзіянісі мае дастаць эмэрытуру і пасяліцца заграніцай. На яго месца мае прыйсьці палескі архіяпіскап Аляксандар Іназемцаў, а валынскую епархію абняў-бы япіскап Палікарп Сікорскі — украінец.

**4. Варшава (КАП. 18.IX.1933). Гэтага яшчэ ня было.** Праваслаўныя духоўнікі, забываючы выразныя прадпісаньні законаў і колькіразовыя пастановы Найвышэйшага Суда, якія сьцьвярджаюць злоўжываньні і бяспраўнасьці праваслаўных кансысторыяў пры даваньні разлукаў каталіком, пачалі ўжо, на ўласную руку, абмінаючы праваслаўныя кансысторыі, даваць разлукі каталіцкім парам. Адна з паняў, замужняя каталічка, шлюб якое адбыўся ў каталіцкай Царкве, атрымала ад праваслаўнага настаяцеля ў Берасьці над Бугам пісьмо, зьмест якога падаём, прапушчаючы прозьвішчы і адрэсы старонаў:

„Позва. П. П. А... Т..., Варшава, ...вул. №.., заклікаецца ў канцэлярыю настаяцеля Сьв.-Мікалаеўскае Царквы ў Берасьці н/Б. (Брацкі завулак № 2) на дзень 19 верасьня 1933 г. а 17 гадз., як абвінавачаная ў справе аб разлуцы з мужам К... Т... 8 верасьня 1933 г. м. Берасьце над Бугам **Мітраф. Сьвяшч. К. Зноско“.**

Мы падалі гэты дакумэнт да публічнага ведама з надзеяй, што ў справу гэтую ўмяшаюцца дзяржаўныя ўлады і пракурор. Немагчыма далей цярпець гэткае разлуковае анархіі. Цяпер ужо пачынаюць даваць разлукі звычайныя папы, а хто-ж ведае, ці ў будучыні не пачнуць даваць разлукаў дыяканы і псаломшчыкі?

**5. Луцк (КАП). Новая царква ўсходняга абраду.** Яго Пр Япіскап Мікалай Чарнэцкі, Апостальскі Візытатар, у нядзелю 3 мінулага верасьня пасьвяціў новазбудованую царкву для каталікоў усходняга абраду ў сяле Вялікіх-Куськаўцах, Крэмянецкага павету.

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**1. Горад Ватыкан, 20.IX.1933 г. (КАП). Цуд сьв. Януарыя.** Учора ў мітрапалітальнай Царкве Нэаполю ў прысутнасьці ўладаў і вялізных масаў пілігрымаў а гадз. 9.40 паўтарыўся цуд кіпеньня крыві сьв. Януарыя. Народ, пачуўшы аб цудзе, натоўпам сьпяшаўся ў сьвятыню, малітвамі падзякі выказваючы сваю радасьць.

**2. Горад Ватыкан (КАП). Вышэйшая езуіцкая школа ў Тыентсіне атрымала дзяржаўныя правы.** Вышэйшая гандлёва-прамысловая школа ў Тыентсіне, утрымліваная і кіраваная А. А. Езуітамі, афіцыяльна атрымала ад кітайскага ўраду правы дзяржаўных школаў. Разам з падгатоўчым курсам школа гэтая налічвае цяпер 500 студэнтаў.

**3. Горад Ватыкан, 1.IX.1933. (КАП). Былы кітайскі прэм'ер-міністар атрымаў духоўніцкія высьвячэньні.** Нованазначаны Апостальскі Вікары ў Шукінг (Кітай), прабываючы цяпер у Бэльгіі даў у царкве пры абацтве сьв. Андрэя ў Lophem-les-Bruges духоўніцкія высьвячэньні вялікаму ліку алюмнаў. Паміж іншымі атрымаў высьвячэньне былы старшыня міністраў у Пэкіне Лю-Тсэнг-Тсян, які колькі гадоў назад выклікаў вялікае ўзварушэньне ў Кітаі, пакідаючы кар'еру і сьвет і паступаючы ў ордэн А. А. Бэнэдыктынцаў.

**4. Горад Ватыкан (КАП). Папская Літургія для пілігрымаў у базыліцы сьв. Пётры.** 7-га мінулага верасьня Сьв. Айцец адправіў у базыліцы сьв. Пётры Сьв. Літургію для прыбыўшых у Рым пілігрымаў, у якой бралі ўдзел таксама і сябры адбываўшагася ў Рыме італьянскага грамадзкага тыдня. Была прысутнаю і экскурсія 80 праваслаўных Баўгараў. У часе службы хор Schola Cantorum выканаў старадаўны гымн пілігрымаў „Roma nobilis", які затым пялі ўсе прысутныя ў базыліцы пілігрымы.

**5. Горад Ватыкан (КАП). Ратыфікацыя конкордату Сьв. Сталіцы і Нямецкаю Рэспублікаю.** 10-га верасьня с. г. ўвечары ў апартамэнтах кардынала дзяржаўнага сэкрэтара адбыўся абмен ратыфікацыйных дакумэнтаў у справе конкордату, уложанага паміж Сьв. Сталіцаю і Нямецкаю Рэспублікай. Сьв. Сталіцу прадстаўляў кардынал Пачэльлі, а Нямецкую Рэспубліку атташэ нямецкае амбасады пры Ватыкане д-р Клец. Акту абмену асыставалі архіяпіскап Піччардо і монсіньёр Оттавіані, а таксама граф фон-Saurma-Jeltsch, першы сэкрэтар нямецкай амбасады.

**6. Рым (КАП). Перад салезыянскаю экспэдыцыяй на Літву.** Мала хто ў Польшчы цікавіцца дзелам Салезыянскім у суседняй Літве. Праўда, дзела гэтае ёсьць там толькі ў зародку, але варожыць сьветлую будучыню. У Італіі фармуецца кадра салезыянскіх згрупаваньняў місійных і іншых для Літвы. Ужо ёсьць паважная завязь гэтае літоўскае салезыянскае кадры, бо 6 сьвяшчэньнікаў, 36 клерыкаў і сем братоў-коад'ютараў. Дваццаць літвіноў чакаюць на прыняцьце ў новіцыят у зграмаджаньні Багаслаўлёнага Яна Боско.

Трэба дадаць, што салезыянскі месячнік „Pokłosie Sa-

lezjańskie“ ўжо друкуецца на літоўскай мове і разыходзіцца ў рэкорднай колькасьці 20 тысяч экзэмпляраў. Лік гэты называем рэкордным на 3 з палавінаю мільёны жыхароў Літвы і цераз тую акалічнасьць, што А.А. Салезыяне яшчэ не адчынілі свае пляцоўкі на літоўскай зямлі.

**7. (КАП). Цяперашні стан каталіцкіх місіяў у Кітаі, Індыі і Індакітаі.** Нядаўная ўрачыстасьць высьвячэньня Сьв. Айцом на япіскапаў чатырох кітайскіх сьвяшчэньнікаў і аднаго індакітайскага скіравала ўвагу ўсяго каталіцкага сьвету на далёкія краі ўсходняе і паўднёвае Азіі, дзе лік тубыльнага духавенства ўвесь час павялічваецца. Паводле апошніх статыстычных даных, Кітай мае цяпер адну епархію, 78 апостальскіх вікарыятаў, 29 апостальскіх прэфэктураў і 12 місіяў sui juris. З гэтых 120 царкоўных акругоў 19 падлягаюць духавенству краёвага паходжаньня, а ласьне 12 вікарыятаў і 7 прэфэктураў. Апрача таго асыстэнтам апостальскага вікарыя ў Кантоне ёсьць япіскап туземнага паходжаньня. Агулам Кітай налічвае 1.420 сьвяшчэньнікаў краёўцаў і 1.980 місіянэраў чужаземцаў. На 2 з палавінаю мільёны кітайскіх каталікоў на місянэраў-туземцаў прыпадае каля мільёна верных.

У Індыі разам з Бірмаю і Цэйлёнам ёсьць 57 місійных акругоў у 11 архіепархіях, 35 епархіях, 3 вікарыятах і 3 прэфэктурах ды апрача таго 3 місіі sui juris. 11 акругоў паверана краёваму духавенству: 5, што належаць да лацінскага абраду, 4 — да сырыйска-малябарскага і 2 да сырыйска-малянкарскага. Духавенства складаецца з 2.000 сьвяшчэньнікаў туземцаў і 1.500 чужаземцаў, разам знач. — 3.500 місіянэраў, якія абслужваюць, кругла беручы, 2.500.000 каталікоў. З гэтага ліку больш-менш адна трэцяя часьць падлягае япіскапам туземнага паходжаньня, а далейшы мільён верных знаходзіцца пад апекаю сьвяшчэньнікаў-краёўцаў у епархіях, якія кіруюцца япіскапамі чужаземцамі.

Індакітай атрымаў цяпер у асобе япіскапа Тонга першага краёвага архіпастыра. Праўда, ён ёсьць цяпер асыстэнтам апостальскага вікарыя з Пат-Діэм, але ўся епархія мае за душпастыраў блізка што ўсіх сьвяшчэньнікаў туземцаў. Індакітай і Сіям маюць 1.300.000 каталікоў, падзеленых на 17 акругоў з 15-ма вікарыятамі, адну прэфэктуру і адну місію sui juris. З гэтага ліку блізка што 800.000 верных прыпадае на туземнае духавенства.

У Японіі толькі адзін місійны вокруг паверан тубыльнаму кіраўніку, у той час як 12 іншых знаходзяцца пад кіраваньнем япіскапаў чужаземцаў. Але япіскап Гайасака мае пад сваім кіраваньнем дзьве трэція агульнага ліку 100.000

каталікоў, якія абслужваюцца 222 сьвяшчэньнікамі чужаземцамі і 62 краёўцамі.

На Карэі ўсе місійныя акругі знаходзяцца яшчэ пад кіраваньнем чужога духавенства. 115 місіянэраў працуюць сярод 100.000 каталікоў, з якіх толькі 40.000 знаходзяцца пад царкоўным кіраваньнем 64 сьвяшчэньнікаў краёвага паходжаньня.

8. **Ватыкан (КАП. 20.VIII.1933). Падрыхтаваньне да 32 Эўхарыстычнага Конгрэсу.** З Аргэнтыны паведамляюць, што япіскапат, духавенства і ўвесь Аргэнтынскі народ з нязвычайнаю энэргіяй і энтузыязмам рыхтуецца да 32-га Міжнароднага Эўхарыстычнага Конгрэсу ў бягучым месяцы кастрычніку ў Буэнос-Айрэсе.

9. **Рыга. (КАП). Каталіцызм у Эстоніі.** Найменшая балтыцкая дзяржава Эстонія, пасьля здабыцьця незалежнасьці, 28 траўня 1919 г. абвясьціла лютэранізм, як «дзяржаўную царкву.» Пасьля перасяленьня вялікага ліку палякоў, колькасьць каталікоў у Эстоніі ўпала да 2000 чалавек і складае 0,2 проціанту ўсяго насяленьня. Каталікі эстонцы падпарадкаваны былі Магілёўскаму Архіяпіскапу, пасьля іх перадалі юрысдыкцыі Рыскага Япіскапства. З 1925 г. устаноўлена самастойная Апостальская Адміністрацыя для Эстоніі, беспасярэдня падпарадкаваная Сьвятой Сталіцы. Гэта малюсенькая Адміністрацыя складаецца з чатырох прыходаў Талін (Рэваль), Тарту (Дорпат), Нарва і Валк.

# Календар

на м—ц Кастрычнік 1933 г.

**Стары стыль**

Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр.

| | | |
|---|---|---|
| 1 | С | **Пакроў Пр. Багар.** |
| 2 | Н | **Кіпрыяна** |
| 3 | П | Дзяніса |
| 4 | А | Ерафея |
| 5 | С | Харытыны |
| 6 | Ч | Тамаша ап. |
| 7 | П | Сяргея |
| 8 | С | Палагеі. |
| 9 | Н | **Якуба ап.** |
| 10 | П | Яўлампія |
| 11 | А | Піліпа |
| 12 | С | Прова |
| 13 | Ч | Карпа муч. |
| 14 | П | Параскі |
| 15 | С | Лук'яна |
| 16 | Н | **Лёнгіна сот.** |
| 17 | П | Андрэя |
| 18 | А | Лукі ап. |
| 19 | С | Ііоля |
| 20 | Ч | Арцема вм. |
| 21 | П | Іларыёна Вял. |
| 22 | С | Глікерыі |
| 23 | Н | **Якуба ап.** |
| 24 | П | Арэты |
| 25 | А | Маркіяна |
| 26 | С | Дзімітра В. |
| 27 | Ч | Нестара |
| 28 | П | Параскевы |
| 29 | С | Анастасіі |
| 30 | Н | **Зіновія** |
| 31 | П | Стахея |

**Новы стыль**

Kal. niadz. i świat rymska-kat. a

| | | |
|---|---|---|
| 14 | S | Kaliksta |
| 15 | N | **Taresy. Jadwihi** |
| 16 | P | Gerarda |
| 17 | A | Margaryty |
| 18 | S | Łukaša |
| 19 | Č | Piotra z Alk. |
| 20 | P | Jana Kantaha |
| 21 | S | Uršuli |
| 22 | N | **Korduli** |
| 23 | P | Seweryna |
| 24 | A | Rafała |
| 25 | S | Kryspina |
| 26 | Č | Ewarysta |
| 27 | P | Florencyja |
| 28 | S | Šymona i Tadeuša. |
| 29 | N | **Narcyza** |
| 30 | P | Hermana Serap. |
| 31 | A | Sumfronija |
| | | LISTAPAD |
| 1 | S | **Usich Światych.** |
| 2 | Č | Zadušny Dzień |
| 3 | P | Huberta Sylwii |
| 4 | S | Karala Bar. Witalisa |
| 5 | N | **Zachara i Alžbiety** |
| 6 | P | Leonarda |
| 7 | A | Nikandra |
| 8 | S | Gotfryda |
| 9 | Č | Todara |
| 10 | P | Andreja |
| 11 | S | Marcina b. |
| 12 | N | **Marcina pap.** |
| 13 | P | Stanisława Kostki. |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.